# ВЕТЕРИНАРНОЕ ОБРАЗОВАНИЕ.

## Рэзалюцыя-наказ

**передвыбарнага агульнага сходу студэнтаў аб працы Праўленьня на 1928—29 год 5 мая 1928 г.**

1. З пачатку другога дзесяцігодздзя культурна-адсталая Беларусь уступае ў паласу індустрыялізацыі і рэканструкцыі сваёй гаспадаркі. Індустрыялізацыя патрабуе зьмен мэтадаў і тэмпу працы сацыялістычнага будаўніцтва, што не магчыма без належнага падняцьця культурнасьці працоўных. Гэта абавязвае пытаньне аб новай культуры ў Беларускім вэтэрынарным інстытуце паставіць на першым пляне.

2. Падлічваючы значэньне Белдзяржвэтінстытуту і існуючых пры ім навукова-дасьледчых вучэбна-дапаможных устаноў, як аднаго з істотных вучасткаў БССР, лічыць неабходным з боку НКА і НКФ узмацненьне асыгнаваньняў на Бел. вэт. інстытут з яго ўстановамі. Асабліва ўзмоцнена, з прычыны пачаўшагася выпуску вэтўрачоў, павінна пайсьці будаўніцтва клінік.

3. Прызнаючы пажаданым арганізацыю пры Белвэтінстытуце навукова-дасьледчых інстытутаў, маючых вялікае значэньне ў разьвіцьці вучэбна дасьледчай працы і правядзеньне яе ў аформленым плянапарадку, а таксама ў падрыхтоўцы новай зьмены лічыць неабходным узняць хадайніцтва аб арганізацыі пры Б. В. І. для паўночнай Беларусі найперш за ўсё навукова-дасьледчых інстытутаў: эпізоотолёгічнага, жывёлаводнага і па прыкладной зоолёгіі.

4. Праводзіць у плянавым парадку асобных элемэнтаў навучальнай часткі прадметных камісій, вучэбна плянавай, акадэмічнай студэнцкай арганізацыі і інш.

5. Усяму калектыву інстытуту выпрацаваць і прыняць ў сувязі з задачамі пабудовы сацыялізму плян мерапрыёмстваў па разьвіцьці навукова-дасьледчай працы з краязнаўчым ухілам, уцягваючы ўсімі мерамі ў гэтую працу і студэнцтва.

6. Важнай задачай ўсяго колектыву лічыць: а) падрыхтоўку асьпірантаў і студэнтаў навуковых працоўнікоў Белвэтінстытуту і павышэнные кваліфікацыі іншых навуковых працоўнікоў Б. В. І., б) павышэньне акадэмічнай актыўнасьці і акадэмічнай дысціпліны студэнцтва.

7. Заняцца разгледжваньнем навучальных праграм у мэтах іх увязкі і дапасаваньня іх к практычнай вэтэрынарыі ў умовах с./г. БССР і накіраваньне практычнай вэтэрынарыі па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

8. Прыймаць найбольш падрыхтаваны склад студэнтаў.

9. У інтарэсах аховы здароўя і павышэньня працапасьпяховасьці студэнтаў зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на паляпшэньне абставін інтэрнатаў, а ўласна: здабыт жалезных караваццяў, пасьцельных прыладаў, імбрычкі і інш., а таксама аб павелічэньні стыпэндый як якасьцю, гэтак і колькасьцю.

10. Усяму калектыву інстытуту павялічыць працу па беларусізацыі (белмова і белкультура) пэдагогічна-тэхнічнага апарату і студэнцтва, інтэнсіўней уводзіць чытаньне лекцый на беларускай мове. Ажывіць працу т-ва краязнаўства, увязаўшы гэтакую з катэдрай беларусазнаўства, пры чым у гэтую працу ўцягнуць апроч студэнтаў і выкладчыцкі пэрсанал. Пры складаньні каштарысу на 28/29 год мець на ўвазе павялічэньне сродкаў для катэдры беларусазнаўства.

11. Выпрацаваць рэглямэнтацыю функцый праўленьня, усіх акадэмічных і інш. камісій, існуючых пры праўленьні, а таксама і ўстаноў, існуючых пры інстытуце.

12. Узьняць хадайніцтва ад імя ўсяго калектыву інстытуту аб увядзеньні штатнай сыстэмы ў інстытуце і нармальным правядзеньні навучальнай праграмы на перадапошнім курсе (IV-м) з устанаўленьнем адпавядаючага штатнага ліку навуковых працаўнікоў.

13. У плянавым парадку правадзіць навуковыя замежныя і ўнутраныя камандыроўкі пэдпэрсаналу, пераважна асыстэнтаў і асьпірантаў.

14. Узьняць хадайніцтва аб водпуску сродкаў на грунтоўную бібліотэку, гэты галоўны нэрв жыцьця ўсякае ВНУ-ы.

15. Правесьці рацыяналізацыю працы ва ўсіх аддзелах і установах вэтінстытуту.

16. У сувязі з увядзеньнем 5-цёх гадовава курсу навучаньня ўзьняць хадайніцтва аб установе на навучальнай частцы пасады аднаго тэхпрацоўніка.

17. Лічыць неабходным водпуск памяшканьня пад клюб, для правядзеньня паліт-культурна-асьветнай працы сярод студэнцтва.

18. У далейшым палепшаць становішча страўні, як-та: аплата поўнасьцю абслугоўваючаму апарату, здабыт пасудных шафаў, цыратак і інш., а таксама пашырыць памяшканьне.

19. Распачать утварэньне аптэкі, якая неабходна для прахаджэньня аптэчнай справы студэнтамі практычна, зацьвердзіўшы гэткую пры катэдры фармакалёгіі, згодна патрабаваньням навучальнага пляну і для карысьці справы і правільнага стажыраваньня студэнтаў.

20. Адзначыць слабы гаспадарчы кантроль за рамонтам інтэрнату ў выніку чаго маецца цэлы шэраг дэфэктаў.

21. Своечасова падлічваць і рэагаваць на ўсе узьнікаючыя канфлікты між студэнтамі і асобнымі выкладчыкамі, вырашаючы гэткія ў прадметных, вучэбна-планавай камісіях.

22. Падняць дысціпліну тэхпэрсаналу, конкрэтызаваўшы іх абавязкі, у частковасьці, абслугоўваючых інтэрнат.

23. Лічыць ненармальным, калі член праўленьня студэнт у сваёй працы замыкаецца ў рамкі (працяг залікавай сэсіі і пераводу) зусім ня выдаючы іншых галін працы праўленьня, таксама, ня робячы справаздачы аб сваёй працы за ўвесь год.

24. Лічыць ненармальным, што за ўвесь год ня было ні аднэй справаздачы праўленьня, хоць бы па тэй ці іншай галіне працы.

25. Зьвярнуць увагу на рацыянальнае скарыстаньне памяшканьняў, як у галоўным будынку інстытуту, так і ў іншых карпусох, на навучальныя габінэты, не займаючы гэткіх як жыльлёвую плошчу.

26. Утварыць камісію па выпуску студэнтаў IV к. — прызначыўшы дзяржаўныя экзамены з 1/XI па 1/XII—28 г.

27. Падкрэсьліць, што на некаторыя рэзалюцыі студэнцкіх сходаў і пасяджэньняў прафкому, патрабуючых тых або іншых вырашэньняў праўленьня інстытуту, гэткае крайне мала рэагавала на іх і зьнішчыць гэтае зьявішча ў будучым.

28. Хадайнічаць перад належачымі органамі аб выдачы стыпэндый студ. IV к. за кастрычнік, лістапад і сьнежань м-цы.

29. Абвясьціць конкурс на не замешчаныя катэдры.

30. Хадайнічаць аб водпуску памяшканьня для чытальні.

---

**Праф. С. М. Вышэлескі.**

# Аб адчыненьні пры Беларускім Вэтэрынарным Інстытуте навукова-дасьледчай катэдры-эпізоотолёгіі.

Навукова дасьледчыя задачы па часьці вывучэньня, існуючых на тэрыторыі Беларусі пошасных хваробаў дамовых жывёлаў азначаюцца найперш за ўсё тымі эканамічнымі стратамі, якія тая ці іншая інфэкцыя прыносіць жывёлаводзтву краіны, насельніцтву, значыцца самой дзяржаве.

Натуральна, што першачарговая ўвага павінна быць адведзена тым эпізоотыям, якія прыносяць найвялікшую страту.

У адпаведнасьці з статыстычнымі данным і па гэтым пытаньні можна сказаць, што найбольш грознымі эпізоотыямі зьяўляюцца:

1) Чума і рожа сьвіней, як роўна і іншыя хваробы, звычайна ўскладняючыя першыя, асабліва чуму.

2) Піраплязмоз буйнай рагатай жывёлы.

3) Шалёнства.

Тыя навуковыя данныя, якія мы маем у цяперашні час па пералічаных інфэкцыях яшчэ ня поўнасьцю азначаюць, ак сыстэму і мэтады ба-

рацьбы з імі, таксама далёка ня вырашаны і многія пытаньні, адносячыяся да біолёгіі ўзбудзіцеляў пералічаных інфэкцый, як, напрыклад, фільтруючыхся вірусаў чумы сьвіней і шалёнства. У адносінах к узбудзіцелю піроплязмозу і яго пераношчыкаў клешчакоў у Беларусі таксама ня маецца вычэрпваючых данных.

У той-жа час навуковыя заваёвы ў адносінах да пералічаных інфэкцый у Амэрыцы і часткова ў Зах. Эўропе і зараз ужо даюць дастаткова багаты матар'ял для праверак. Асабліва навучальнымі даннымі ў барацьбе з піроплязмазам зьяўляюцца амэрыканскія мэтады барацьбы з клешчакамі, пераношчыкамі піроплязмазу; па барацьбе с шалёнствам сабак заслугоўвае праверкі японскі мэтад забесьпячэньня сабак, ухвалены таксама і амэрыканцамі, у адносінах да хваробаў сьвіней нельга не скарыстаць багатага вопыту вэнгерскіх, а таксама амэрыканскіх дасьледнікаў.

Адчыненьне навукова-дасьледчай катэдры эпізоотолёгіі пры вэт. інстытуце ня толькі дапамагло-б знахадзіць вывучэньне пералічанных інфэкцый і ўдасканаліць мэтады барацьбы з імі, але адначасова палепшыла-б і палегчыла справу выкладаньня эпізоотолёгіі студэнтам. Клінічны матар'ял па пошасных хваробах жывёлаў у вэт. інстытуце даволі мізэрны і аднастайны (пераважае залазаваньне коняй) а ва ўмовах дасьледчай катэдры справа адразу-б зьмянілася, затым што пры экспэрымэнтах з найбольш важнымі для Рэспублікі інфэкцыямі—натуральна і студэнты ўцягнуты былі б у гэтую справу, атрымаўшы паважны дэманстрацыйны матар'ял.

Для таго, каб катэдра ў якасьці дасьледчай магла пачаць працу, неабходны шмат працаўнікоў, памяшканьне, інвэнтар, сродкі на здабыт дасьледчых жывёлаў і іх утрыманьне, фарбы, рэактывы і інш.

Некаторым інвэнтаром як: мікраскопамі, аўтаклавам, стэрылізатарам, і некаторымі дробязямі катэдра ўжо забясьпечана, часова і часткова штокольвечы можа быць пазычана з вэт. бакінстытуту НКЗ-му, але штат з асобнага асыстэнта, асьпіранта, прапаратара і служыцеля зусім неабходны, як неабходна памяшканьне па меншай меры і ў першыя часы існаваньня з 3—4 пакояў, апроч таго неабходны памяшканьні для буйных і дробных дасьледчых жывёлаў.

Задачы дасьледчай катэдры—эпізоотолёгіі супадаюць, выключаючы вытворчую працу, з гэткімі-ж задачамі Віцебскага вэтбакінстытуту НКЗ-му.

Не вырашаючы пытаньня аб тым, як узгадніць працу абедзьвюх гэтых устаноў, я мяркую, што гэтае ўзгадненьне ў пэўнай меры магчыма, таксама як магчыма скарыстаньне сродкаў, адпушчаемых Дзяржстрахам на барацьбу з пошаснымі хваробамі жывёлаў ня толькі ў мэтах даабсталяваньня вэтбакінстытуту, але і для спэцыяльнага абсталяваньня катэдры эпізоотолёгіі.

---

Праф. М. І. Архіпаў.

# Аб дасьледчай працы па зоотэхніі пры Б. В. І.

Цяжка паказаць яшчэ якую небудзь галіну народнай гаспадаркі, разьвіцьця якой так настойліва патрабавала-б жыцьцё, як гэта мае мейсца з жывёлаводзтвам. Так, аказваюць яму ўвагу зьезды саветаў, а асабліва апошнія. Далей у моцнай ступені завострыў гэтае пытаньне і XV партыйны зьезд Да, урэшце, і само сялянства ў шуканьнях шляхоў паляпшэньня сваёй гаспадаркі значна мацней рэагуе на падняцьце як раз гэтай галіны, а не якіх колечы іншых відаў сваёй гаспадаркі. Словам, пераход ад запрыгоннага зернавога напрамку гаспадаркі на рынкачны жывёлаводны зрабіуся ня толькі задачай нашай эпохі, але без павялічэньня можна казаць, што і пытаньнем сёньнешняга дню.

Справа пайшла нават некалькі далей і як адзначыў на XV партыйным зьезьдзе ў сваей прамове т-ш Молатаў, «адна з нашых губэрскіх арганізацый у ліку іншых сваіх тэзісаў высунула і гэтакі як: узмацніць курс на карову мясцовай пароды».

Не падлягае сумненьню, што для дадзенага выпадку гэта ня больш, ня менш як нонсэнс, аднак у агульнай складаннасьці і гэта ўсё-же зьяўляецца дастатковым паказальнікам таго, што цяпер з установай зусім новых і шырокіх пэрспэктыў у галіне жывёлаводзтва адчыніўся шлях і к масавому, народнаму жывёлаводзтву і як раз праз гэтую самую мясцовую кароўку. За правільнасьць гэтакага пункту погляду між іншым ня толькі ніхто не спрачаецца, але яна падтрымліваецца многімі выдатнымі вучонымі, а таксама і нашым грамадзка-жывёлаводным авангардам. Так, аграном Зубрылін па гэтай прычыне гаворыць, напрыклад, наступнае: «І як толькі супрацоўнікі зоотэхнічнай навукі і каапэрацыі праніклі масай у вёску і падыйшлі шчыльна к сялянскаму быдлу, у даннай галіне адчынілася запраўдная «Амэрыка». Тыя самыя беспародныя каровы, у арганізме якіх цячэ, калі ня ўсе 100%, то ва ўсякім выпадку ня менш 75% тасканскай крыві, пастаўленыя «на вучоте» пры нармальных умовах утрыманьня і кармленьня замест ранейшага 50—70 пудовага ўдою, сталі выліваць з сябе 120—150, а то і ўсе 200 пудоў высока тлустага малака».

(Малочная гаспадарка 1927 г. №№ 20 — 21). Ня менш падрупны ў гэтым напрамку і водзыў праф. Ліскуна К. Ф.: «пры нашых эконамічных магчымасьцях належала-б зьвярнуць паўсюдную ўвагу на мясцовае быдла і пачаць з яго плянамерную працу на яго паляпшэньні, што было-б больш танный і ажыцьцяўлёнай справай чымсь добрыя мары, чымсь тэорэтычныя захапленьні запраўды добрымі пародамі, выведзенымі ў краінах больш старай гаспадарчай культуры і ўтрыманьня там у ўмовах зусім іншага гаспадарча-экономічнага ўкладу ўсяго жыцьця земляроба». (Праф. Е. Ф. Ліскун. Расійскія выраджкі буйна-рагатай жывёлы).

Маецца ў гэтых адносінах адпаведаючы водзыў і праф. Багданава Е. А., а ўласна, «хуткая зьмена тысячагодзьдзямі існаваўшых замораных і зьмізарнелых формаў буйнымі і вытворчымі пры дапасаваньні высокай культуры і хіба толькі самага малага рознастайнага злучэньня, гаворыць, калі не запоўную, то за частую магчымасьць разбудзіць карысную зьменнасьць нават там, дзе яна ўціскалася моцна і доўга. Інагды для гэтага, вінавочна, дастаткова галоўным чынам палепшанага выхаваньня, кармленьня і падбору, інагды патрабуецца ўжо скрыжаваньне, але толькі рэдка абавязкова гэткае, якое ідзе вельмі далёка і патрабуе асабліва вялікіх выдаткаў на сталую выпіску, чужаземных жывёлаў». (Праф. Е. Багданаў. Агульнае жывёлаводзтва. Частка другая).

Даволі азначана па гэтаму поваду гаворыць таксама праф. Макараў Н. П. «У расійскай вёсцы шлях паляпшэньня ў сабе і асабліва ў адносінах к малочнаму быдлу карыстаецца значна большым посьпехам; гэты шлях хоць і марудней, але больш пэўны і галоўнае таньнейшы ў сэнсе аднечасовых трат капіталу». (Макараў Н. П. Арганізацыя сельскай гаспадаркі).

Ня менш цікаўны погляд на мясцовую кароўку таксама і агульнавядомаго жывёлавода А. А. Армфэльда, які гаворыць наступнае: «усе мясцовасьці і краіны Заходнай Эўропы ганарацца і хваляцца сваімі мясцовамі карэннымі пародамі, мы-ж усе роўна як саромімся і адхрышчваемся ад іх, і як толькі ўмовы часу і мейсца застаўляюць нас мець найлепшае быдла, замяняем свае быдла чужаземным. А між тым чужаземныя пароды выведзены для зусім іншых умоў; перанесеныя к нам яны, пад уплывам неспагадных умоў, значна зьмяншаюць сваю гаспадарчую прыгоднасьць і прадуктыйнасьць (Армфэльд А. А. Буйная рагатая жывёла ў умовах расійскіх гаспадарак).

Да гэтага самага, г. з. да масавога жывёлаводзтва праз мясцовую кароўку прыводзіць яшчэ і цэлы шэраг проста об'ектыўных меркаваньняў, як-та: 1) Неадпаведнасьць выпісваемых жывёлаў прыродным асаблівасьцям іх першай радзімы; 2) Магчымасьць здабыту бракованага або маючага заганну матар'ялу, асабліва, калі ўзяць пад увагу тэндэнцыю покупу па таннай цане; 3) Магчымасьць занясеньня, сумесна з здабытай завадзкой жывелай пошасных хваробаў і асабліва тубэркулёзу; 4) Адсутнасьць магчымасьці пэўнай бракоўкі прыплоду і застаўленьня яго за дарагоўляй на племя амаль поўнасьцю; 5) Параўнаўча ня вельмі вялікую сталасьць спадчынай перадачы і сярод замежных парод быдла.

Калі ўсё вышэйказанае ўзяць сумесна, то яно з відавочнасьцю будзе гаварыць нам за тое, што цяжкі шлях нашай мясцовай кароўкі калі яшчэ не аджыты, то ва ўсякім выпадку аджываецца і ў цяперашні час ёй, што называецца на раду напісана паслужыць асновай масавого разьвіцьця і паляпшэньня нашай буйнай рагатай жывёлы, якая ў сваю чаргу павядзе ўжо

к намечанай дзяржаўнымі плянамі індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. Але затым што большасьць нашых шматміліённых сялянскіх статкаў ня мае вызначаных прыметаў, устанавіўшайся пароды і аказваюцца ня толькі вывучанымі, але досыць часта і маланадзейнымі ў адносінах перадачы патомству сваіх карысных уласьцівасьцяў, то зусім натуральна, узьнікае пытаньне як вывучэньня гэтага быдла, гэтак і падвышэньня яго завадзкіх і прадукцыйных уласьцівасьцяў г. з. гаворачы інакш, ставіцца як раз тая самая задача, пра якую спамінаў і т. Молатаў, а ўласна: «узмацніць курс на мясцовую карову».

Пяцёх-гадовы плян НКЗ Беларусі гэтую акалічнасьць, як відаць, таксама падлічвае, калі гаворыць: «уся тэраторыя Беларусі населена абарыгеннай буйнай рагатай жывёлай тыпу боспрымігеніус розных выглядных колераў з перавагай чырвона-рабога і чорна-рабога. Гэтае аборыгенная быдла, знаходзячыся ў выключна неспагадных умовах існаваньня, тым ня менш аказалася здольным праяўляць некаторыя каштоўныя гаспадарчыя якасьці ў выпадку дапасаваньня да яго культурных прыёмаў працы, а яго высокая тлустамалочнасьць, здольнасьць хутка і станоўча рэагаваць на паляпшэньне ўмоў утрыманьня і кармленьня і прызвычаеннасьць к мясцовым, кліматычным і прыродным умовам даюць яму пераважна перад многімі культурнымі пародамі ў нашых умова утрыманьня. Сярод гэтага аборыгеннага быдла паказаннай тэрыторыі маецца даволі значны процант быдла чырвонай масьці. Па маючыхся ў нас данных гэтакіх аўторытэтаў-зоотэхнікаў як праф. Прыдарогін, праф. Калугін і праф. Калянтар і інш. беларускае чырвонае ляснае быдла (аборыгеннае) паслужыла асновай стварэньня быдла чырвонага беларускага палепшанага—у пачатку шляхам мэтызацыі яго з галяндамі і ангельнамі, а «потым шляхам разьвядзеньня ў сабе».

Якаснае паляпшэньне малочнага быдла, пачатае ў недалёкім мінулым у напрамку падбору кароў па прадукцыйнасьці, у будучым павінна быць разгарнута ў шырокую коопэрацыйную завадзкую працу ўсяго сельскага насельніцтва.

Грунтоўным мэтадам разьвядзеньня буйнага рагатага быдла выбіраецца мэтад паляпшэньня ў сабе па прадукцыйнасьці, аплаце корму і здароваму складу ў напрамку стварэньня адродкаў культурнага мясцовага быдла на аснове ўсяго маючагася лепшага. Пры ажыцяўленьні масавага палепшэньня малочнага быдла па прынятым мэтадзе выбіраецца шлях гнездавой працы. Гэткімі гнёздамі будуць зьяўляцца мейсцы, у якіх усе гаспадарча-эканамічныя ўмовы ўжо сказаліся на пункце перапрацоўкі малака і на ўзьнікненьні кантрольных таварыстваў пры іх». (Пэрспэктыўны плян разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР на 1925/26 г.г. старон. 666 і 419, 420).

Данныя абследаваньня буйнага рагатага быдла Віцебшчыны ў 1914 г. праф. Ліскуном. Далей, спэцыфічнае становішча жывёлаводзтва Віцебшчыны, як прылягаючага к гэткаму буйнаму цэнтру, як Ленінград і ўрэшце наліччa ўмоў, адзначаных у пяцёхгадовым пляне НКЗ для разьвіцьця малочнай гаспадаркі, усё гэта сумесна дало магчымасьць Віцебскаму акруговаму зямельнаму кіраўніцтву ўключыць у плян працы па жывёлаводзтву на Віцебскую акругу

Дагаварыўшыся па пытаньні вядзеньня навуковай працы з вэтэрынарным інстытутам, акруговае зямельнае кіраўніцтва крэдытаваньне на гэтае мерапрыёмства правяло праз Сельгасбанк. Прадугледжваючы для гэтай мэты з аднаго боку пераабсталяваньне аборы і некаторых знадворных пабудовак на зоофэрме вэтэрынарнага інстытуту Журжава, дзе ўласна мяркована праводзіць усю намечаную працу, а з другога боку покуп кароў беларускай пароды ў 1927/28 сел. гасп. годзе ў колькасьці 40 галоў.

Плян прац складзены на 5 год за 1927/28 па 1931/32 сел. гасп. гады. Пры гэтай колькасьці малочнага быдла к канчатку 5-годзьдзя мяркуецца давесьці да 65 галоў, як раз да граніцы дабываньня корму зоофэрмы Журжава.

Праграма працы намечана наступная:

1927/28 г. — 1928/29 г. — 1929/30 г. — 1930/31 г. — 1931/32 г.

1. Прадукцыйнасьць кароў.
2. Аплата корму.
3. Вывучэньне ўласьцівасьцяў малака і малодзіва.
4. Узгадаваньне маладняка.
5. Выяўленьне фонотыпаў.
6. — — Выяўленьне генатыпаў.
7. Зьбіраньне матар'ялу па экстэр'еру.
8. — — Будова малочнай залозы.
9. — — Будова воласа.
10. Дапасаваньне мясцовай тарфяной падсьцілкі і склад яе. — — —
11. Атрыманьне гігіенічнага малака і яго рэнтабэльнасьць. — — —
12. Вывучэньне трахпалай і шматпалай беларускай сьвіньні.
13. — — Параўначая сабекаштоўнасьць траў і караняпладоў.
14. Уплыў вадкіх кармоў на малочнасьць.
15. Ацэнка кармавой годнасьці мясцовых пашаў. — — —

Апроч таго, намечана культурнае абслугоўваньне у граніцах заданьняў кантроль-асыстэнта, 10-ці сялянскіх гаспадарак, разьмешчаных у районе Журжава. Апроч дасьледчай працы плянам прадугледжваецца таксама і завадзкая, якая зводзіцца к таму, каб за 2 апошнія гады плянавай пяцігодкі будзе выдзелена для завадзкай працы 30 паўтарагадовых бычкоў па мінімальных цэнах (узгадзёных з мясцовым Акрза) для каапэраванага насельніцтва, маючага патрэбу ў іх. Па запаўненьні-ж статку Журжава плянавай колькасьцю кароў, цёлачкі ад высока-малочных кароў будуць таксама перадавацца зацікаўленаму ў гэтым насельніцтву па мінімальных цанах у месячным узросьце. Што-ж датычыцца сродкаў на ўтрыманьне быдла, на рабочую сілу, адміністрацыйны апарат і інш. то, усё гэта павядзецца на пачатках гаспадар. разрахунку і затым на гэты прадмет гаспадарка ня будзе мець патрэбу ні ў датацыі, ні ў крэдытах.

Калі да ўсяго гэтага дадаць, што наступаючым летам 1928 году, пад кіраўніцтвам навуковых сіл інстытуту будзе праводзіцца гнёздавае абсьледваньне абарыгэннага буйнага быдла Віцебшчыны, то гэтым уласна і будзе вычарпана тое плянавае заданьне, якое намечана ў якасьці ня толькі тэорэтычнай, але і практычнай завадзкой працы, насячай Усебеларускі маштаб і значэньне.

Аднак у самы апошні час выявілася, што з дапускальных сродкаў, адпушчаецца ледзь на абсталяваньне пабудовак і на 20 галоў быдла. З прычыны чаго пляновая праца ў некаторых выпадках скараціцца на палову, а ў некаторых выпадках зьвядзецца зусім на нішто, затое, што многія пытаньні, асабліва-ж кармавыя лепей усяго вывучаць па мэтаду групавому, г. з. пры наліччы ня менш, як 30 галоў аднароднага быдла. Што-ж датычыцца мэтада пэрыядаў пры якім можна карыстацца і 20 галовамі і менш, то праф. Еленеўскі гаворыць гэтак: «1) Уплыў індывідуальнасьці пры мэтадзе пэрыядаў амаль зусім не паралізуецца; 2) наступны ўплыў другога пэрыяду на вынікі кармленьня ў трэцім нічым не адхіляецца; 3) за адсутнасьцю кантрольнай групы нельга падлічыць уплыў выпадковых акалічнасьцяў; 4) асобны досьлед, пастаўлены пэрыядычнаму мэтаду, часта не дае азначанага адказу на пастаўленае пытаньне». (Еленеўскі О. С. Пастаноўка навукова-гаспадарчых досьледаў кармленьня малочнага быдла).

Значна, горш справа знаходзіцца з вывучэньнем гэткіх пытаньняў, як прадукцыйнасьць кароў, аплата корму, уласьцівасьці малака, уплыў гэнатыпаў і інш., дзе маштаб у 20 галоў за рэдкім выключэньнем, амаль нічога не дае.

Прыймаючы аднак пад увагу, што пераабсталяваньне пабудовае пачата, покуп кароў беларускай пароды распачаты таксама і, гэтакім чынам, працу можна палічыць пачаўшайся, то ўсё гэта дае дастатковую аснову к таму, каб зьвярнуцца к Ленінскаму інстытуту, як установе, ведаючай дасьледчай працай з тым, каб ён дапамог папоўніць прабел у працы, па-

чатай вэтінстытутам па вывучэньні беларускага быдла, як пытаньня, маючага краявое значэньне. З гэтай мэтай:

1) З аднаго боку для ідэёвай сувязі і з другога ў дапамогу для ўдзелу ў самай працы прасіць Ленінскі інстытут адпусьціць па прыклад Горкаўскай Акадэміі, асыстента з гадавым атрыманьнем 1400 р.

2) Для таго-ж, каб намячаемая дасьледчая праца ня насіла палавінчатага характару, прасіць адпусьціць сродкі на пакуп нехапаючых 20 кароў з разьліку па 250 р. за карову, а ўсяго 5000 р.

3) Далей, з прычыны таго, што па мэліарацыйным фондзе (за рахунак якога ў цяперашнім годзе думалі выкапаць артэзыянскі калодзеж) водпуску сродкаў з Н. К. З. ня будзе, то дзеля надзвычайна важнага значэньня забясьпечаннасьці жывёлаводнай гаспадаркі дастатковай колькасьцю вады, прасіць адпусьціць на артэзыянскі калодзеж на зоофэрме Журжава 5000 р.

4) Урэшце, прыймаючы пад увагу, што ў вэт. інстытуце ў дастатковай меры абсталёвана ледзь малочная лябараторыя, лябараторыя ж па дасьледваньні кармоў знаходзіцца ў першапачатковым становішчы, то з прычыны яе важнасьці ў пытаньні, намечаным к вывучэньню, прасіць адпусьціць сродкі на даабсталяваньне ляборатрыі па дасьледваньні кармоў 5396 р. 25 к.

5) Здабытак вымерыцельных прыладаў: 1) экстэр'еромэтр 2 шт. — 230 р.; 2) паліц ліутына 2—90 р.; 3) цыркуль Вільксіса—80 р.; 4) вымерыцельная палка для коняй—2 шт.—150 р. Рулетак 2—9 р.; 5) істужка вымерыцельная для суставаў—6 р. Усяго—565 р.

6) Фотографічны апарат з прыналежнасьцямі 1200 р.

7) Мікраскоп. Лупы. Мікромэтрычныя лінейкі і інш. прыналежнасьці для дасьледваньня шэрсьці і шчаціны 1200 р.

Усяго ж неабходна 19761 р. 25 к.

Сьпіс прыкладнога каштарысу па абсталяваньні кармоў пры гэтым прыкладаецца.

Скончваючы дакладную запіску ў заключэньне нельга не зьвярнуць увагі і яшчэ на адну вельмі важную акалічнасьць.

Перажываючы час выключнай цікавасьці, калі перад кожным навуковым супрацоўнікам стаіць цэлы шэраг зусім новых задач, маючых патрэбу ня толькі ў асабістай перапрацоўцы, але досыць часта і ў спэціфічным падыходзе, як-та ў нашай спэцыяльнасьці, напрыклад, утварэньне чыста народнага жывёлаводзтва, арганізацыя масавых завадзкіх гадавальнікаў утвараемых на аснове каапэрацыі, пашырэньне кармаздабываньня, якія праводзяцца у большасьці выпадкаў карэннай ломкай існуючых севазваротаў і інш., і інш.

Далей, калі да жывёлаводзтва павінен быць прыкаваны максімум увагі, як галіне, зьяўляючайся аднэй з грунтоўных прадпасылак намячае-

май індустрыялізацыі і ў той-жа час значна адстаўшай ад іншых відаў гаспадаркі і затое маючай патрэбу ў значна большай энэргіі і большай увазе, чым іншыя віды сялянскай гаспадаркі.

Урэшце, калі ў сувязі з разьвіцьцем у апошні час генэтыкі перад намі ставіцца цэлы шэраг зусім новых навукова-тэхнічных пытаньняў у галіне разьвядзеньня сельска-гаспадарчых жывёлаў і інш., і інш.

Вось калі ўсё гэта злучыць сумесна і к таму-ж дадаць масай зусім ня вывучаных краявых умоў, то робіцца ясным, што гэткая праца кожнаму з нас у паасобнасьці будзе напэўна, не па плячы.

Як выхад з стварыўшагася становішча, падобна прапагандуемай намі самімі каапэрацыйнай форме трэба лічыць наша аб'яднаньне; аб'яднаньне ня толькі на грунце супольнасьці інтарэсаў наогул, але і адпавядаючым абсталяваньнем, абставінамі і інш. або гаворачы інакш на грунце ўтварэньня пры вэт. інстытуце навукова-дасьледчай катэдры па жывёлаводзтву.

Тым болей, што неабходныя для гэтай мэты абставіны ў адносінах абсталяваньня—найлепшая ў Беларусі малочная лябараторыя, добра абсталёваная малочная фэрма і інш.

Маецца таксама і адпавядаючы склад навуковых працаўнікоў у асобе ня толькі загадчыкаў катэдрамі прыватнага і агульнага жывёлаводзтва, але і гэтакіх спэцыялістаў, як вядомы конназаводчык магістр Чарнагораў А. А., жывёлаводы Пятроў-Подшувэйт, дацэнт Неклепаеў І. І. і інш.

---

Прыват-дацэнт І. А. Парфенцьцеў.

# Аб арганізацыі дасьледчай катэдры па прыкладной зоолёгіі пры Беларускім вэтінстытуце.

Разборка пытаньняў па прыкладной зоолёгіі знаходзіцца ў цеснай сувязі з разьвіцьцём сельскай гаспадаркі і скарыстаньнем вытворчых сіл краіны. У Беларусі дасюль у галіне прыкладной зоолёгіі зроблена вельмі мала, тым болей у цяперашні час адчуваецца патрэба ў правядзеньні адпавядаючых дасьледваньняў.

У частковасьці адчыненьне інстытуту па прыкладной зоолёгіі пры Бел. вэтінстытуце дало-б магчымасьць заняцца распрацоўкай цэлага шэрагу насьпеўшых пытаньняў. У сувязі з агульнымі заданьнямі Беларускага вэтэрынарнага інстытуту прадстаўлялася-б мэтазгодным правесьці працы па прыкладной зоолёгіі па наступнай праграме:

I. Вывучэньне кровасосаў (кузурак, клешчакоў), зьвязаных з распаўсюджваньнем пошасных хваробаў дамовых жывёлаў. Ня гледзячы на тое, што ў нас маюць вялікае значэньне хваробы дамовых жывалаў, разнасімыя членістаногімі (піроплязмоз рагатай жывёлы і інш. жывёлы) некаторыя хваробы сьвіней, сібірская балячка і інш., дасюль не адвадзілі ім абавязковай увагі. Да апошняга часу мы мелі ледзь урыўкавыя назіраньні і асобныя працы экспэдыцыйнага характару па вывучэньні кузурак і клешчакоў, перададчыкаў інфэкцый дамовых жывёлаў. Ня лепей знаходзіцца праца з вывучэньнем кузурак, паразітуючых у целе дамовых жывёлаў.

Між тым у цяперашні час адчуваецца патрэба плянамернага вывучэньня кузурак і клешчакоў, як паразітаў і пераношчыкаў пошасных хваробаў дамовых жывёлаў. У гэтым напрамку ў першую чаргу неабходна вывучэньне наступных пытаньняў:

1) Вывучэньне відавога складу і біолёгіі клешчакоў іксодзідэ, нападаючых у Беларусі на дамовых жывёлаў.

2) Выяўленьне эколёгічных умоў, у якіх трымаюцца вусьні клешчакоў у прыродзе (агульны характар расьліннай шаты, глебы, рэльефу, мясцовасьці, блізасьці вадазбору і інш.)

3) Вывучэньне відавога складу расьлін (хмызьнякі, травяністыя расьліны), на якіх трымаюцца вусьні клешчакоў, нападаючыя на дамовых жывёлаў.

4) Характар разьмеркаваньня лічынак клешчакоў у прыродзе (ці яны сустракаюцца ў прыродзе раскідана або таварыствамі і гушчыня апошніх).

5) Час зьяўленьня клешчакоў у прыродзе і азначэньне ўмову зімоўкі іх у Беларусі.

6) Азначэньне лятальных концэнтрацый атручваючых матэрый для клешчакоў (растворы арсэныта, натрыя, мыльныя і водныя растворы нікаціну, эмульсіі з мінэральных маслаў, абкурваньне серкавым газам, хлёрастым і серкаватым вугляцом і інш.).

7) Апрабаваньне мэтадаў барацьбы з клешчакамі. Ванны для жывёлаў. Абкурваньне жывёлаў. Апырскваньне заражоных клешчакамі папасаў, лоў клешчакоў на пераносныя шчыты і інш.

8) Вывучэньне найпрасьцейшых узбудзіцеляў піроплязмозу і іх адносіны да клешчакоў (інкубацыйны пэрыяд інфэкцый у целе клешчака, працяжнасьць захаваньня вірулентнага пачатку ў клешчака, спосаб перадачы клешчакамі віруса і інш.).

9) Выяўленьне відавога складу і ацэнка мух, як пераношчыкаў сібірскай балячкі.

10) Выяўленьне ступені заражэньня % рагатай жывёлы і коняй лічынкамі аваднёў.

11) Выяўленьне відавога складу і біолёгіі аваднёў у Беларусі.

12) Выяўленьне ролі серкалёгічных рэакцый для дыягнозу заражоных жывёлаў.

13) Выяўленьне ролі кровасасучых кузурак у распаўсюджваньні чумы сьвіней.

II. Вывучэньне хваробаў пчол.

Пры гэтакім буйным экономічным значэньні, якое мае пчалярства, упоўне сваячасова вывучэньне хваробаў пчол; патрэба ў гэтым адчуваецца тым болей, што дасюль у нас у саюзе вывучэньне хваробаў пчол і мэтадаў барацьбы з імі знаходзіцца ў першапачатковым становішчы. У першую чаргу намячаецца вывучэньне нозэмы, гнільцу і хваробаў, выклікаемых клешчакамі, паразітуючымі ў трахэях пчол.

III. Вывучэньне рэжыму водных басэйнаў Беларусі з пункту погляду:

а) знаходшаньня і адзначэньня відавода складу паразітаў рыб (членістаногія, малюскі, чэрві і інш.);

б) вывучэньне плянктону для ацэнкі прадукцыйнасьці вадазбораў у сэнсе жыўленьня рыб;

в) выяўленьне фізыка-хімічных уласьцівасьцяў вадазбораў у Беларусі.

Дадатак: Вывучэньне відавога складу і распаўсюджваньне ў вадазборах Беларусі малюскаў, служачых прамежнымі гаспадарамі для трэматод с. г. жывелаў.

IV. Выяўленьне гігенічнага значэньня кузурак і клешчакоў, жывучых у хлебапрадуктах і мэтадаў барацьбы з імі. Уплыў на організм жывёлаў кармленьня заражонымі прадуктамі і прадуктамі падпаўшымі дэзынфэкцыі атрутнымі парамі і газамі.

## Ад рэдакцыі.

Практычнае ажыцьцяўленьне арганізацыі дасьледчай катэдры прыкладной зоолёгіі пры Беларускім Вэтэрынарным Інстытуце прадстаўляецца наступным чынам. Посьле ўхвалы праэкту прац інстытуту і зацьвярджэньня крэдытаў на пяцёх-гадовы пэрыяд запрашаюцца супрацоўнікі, вэтэрынарны інстытут адводзіць памяшканьне пад лябараторыі, для досьледаў прадстаўляецца зоотэхнічная фэрма. Катэдра павінна будзе весьці працу ў поўным контакце з інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна, праз які натуральней усяго арганізаваць дасьледваньне жывёлаводзтва.

Праграма дасьледваньня выпрацоўваецца пры ўдзеле спэцыялістаў жывёлаводаў, птахаводаў і рыбаводаў. Для таго, каб абсьледваньне не расьцягнулася на многія гады, прыцягваецца ў абсьледчыя адрады значны лік асоб, якія атрымаўшы каротка-тэрміновую падрыхтоўку з інструктарамі вытвараюць абсьледваньне.

Абсьледваньнем у навуковых адносінах кіруе катэдра прыкладной зоолегіі, кантралюючы працу абсьледчых адрадаў праз сваіх супрацоўнікаў. Для вырашэньня часткі новых праблем катэдра організуе экспэдыцыі і замежы Беларускай Рэспублікі, патрымлівае сувязь з аналёгічнымі ўстановамі саюзу шляхам камандыраваньня туды сваіх супрацаўнікоў.

Загадчыкам катэдрай прыкладной зоолёгіі зьяўляецца прафэсар Вэтэрынарнага інстытуту па катэдры зоолёгіі, па прадстаўленьні якога Праўленьнем Вэтэрынарнага Інстытуту запрашаюцца супрацоўнікі катэдры.

---

# РЕФЕРАТЫ.

## Периодическая офтальмия лошадей.

Guard. Этиология и патогенез периодической офтальмии лошадей до настоящего времени остаются совершенно невыясненными. Law находит, что появление этого заболевания связано с климатическими условиями, погодой, почвой, качеством корма, антисанитарным содержанием и др. Возможность наследственной передачи болезни настолько вкоренилась в сознании практических работников, что многие государственные и частные конные заводы вовсе отказываются использовать для целей приплода кобыл и жеребцов, перенесших периодическую офтальмию. В минувшую мировую войну все армии, принимавшие в ней участие, несли громадные потери среди конского состава, так как значительный % (4—7) заболевших лошадей утрачивало зрение. Во Франции специально этому заболеванию было посвящено особое совещание и оно могло лишь рекомендовать только санитарные мероприятия. Настоящий доклад представляет собой результат коллективной работы анатома, хирурга и эпизоотолога ветеринарной школы штата Jow'ы над периодической офтальмией. Авторы подвергли заболевание всестороннему (гистологическому, клиническому и эпизоотологическому) исследованию. В их опытах здоровые лошади, простоявши 9 месяцев при самом тесном контакте с больными, при совместном поении и кормлении, не заболели. Точно также искусственное заражение лошадей кровью и патологическими продуктами глаза вызвать не удалось. Убедившись в неинфекционности заболевания, они приходят к

предположению, что возбудитель его—паразит. Точно также мыслит и Arnold Theiler. Последний сообщает, что во время англо - бурской войны англичане занесли болезнь и в Капскую землю, где она получила распространение только среди лошадей, импортированных англичанами. Лошади-же туземные вовсе не заболевали, и болезнь прекратилась после эвукации английской армии. A. Theiler это явление об'ясняет тем, что промежуточный хозяин паразита-возбудителя периодической офтальмии не уживается в жарком климате юга Африки. Специфические при паразитарных заболеваниях мышьяковистые препараты, примененные авторами при. периодической офгальмии, дали хорошие результаты. Так напр., neoarsphenamin в дозе 4,5 гр. с 30 кб. см. дест. воды при внутривенном однократном вливании резко обрывал болезнь и в дальнейшем приступы не наблюдались.

(Journal of the Amerikan Veterinary Medical Association. 1925 June).

*В. Н. Маккавейский.*

---

# ХРОНІКА.

## Аб дзеяньні, вадкіх газавобразных прадуктаў на хлебапрадукты.

Працы апошніх год па прыкладнай энтомолёгіі высоўваюць вельмі важнае пытаньне адносна дзеяньня пара-газавобразных матэрый на хлебапрадукты. У сувязі з тым, што, у цяперашні час шырока праводзяцца працы па дэзынфэкцыі зярна і мукі з дапамогай пара-газавобразных матэрый прадстаўляецца неабходным больш падрабязна вывучыць уплыў фумігацыі на страўныя якасьці хлебапрадуктаў. Па характару гэтай задачы прадстаўляецца мэтазгодным паставіць яе на вырашэньне ў сьценах вэт. інстытуту. Паколькі гэтае пытаньне патрабуе ўсебаковага асьвятленьня, мяркуецца паставіць колектыўную працу па вывучэньні ўплыву пара-газавобразных матэрый і ў першую чаргу, серкавугляца і хлёрапікрына на страўныя якасьці хлебапрадуктаў. Гэтая праца ўжо пачата ў Б. В. І. загадчыкам катэдрай зоолёгіі І. А. Парфенцьцевым.

---



Витокрлитбел № 657. Тип. «Коминтерн». Зак. № 1598—500 экз.